У гарадох і тых мейсцох, дзе украінскі народ жыве у перэмешку з іншымі, прыпісуем нашым грамадзянам прыйсьці да згоды і паразумення з дэмакратыяй тых нацыанальнасьцяў і разам з імі гатавацца да новага справядлівага жыцьця.

Цэнтральная рада спадзяецца, што народы ні украінскіе, каторые жывуць на нашай зямлі, гэтак сама будуць дбаць пра лад і спакой у нашым краю і у гэты цяжкі час уседзержаўнаго безладзьдзя, згодна аднастайна з намі стануць да працы каля арганізацыі аўтаноміі Украіны.

І калі мы зробім гэтую падгатоўчую арганізацыйную работу, тады мы склічым прэдстаўнікаў ад усіх народаў зямлі Украінскае і вырабім законы для яе. Тые законы, той увесь лад, які мы падгатуем, Усерасійскі Устаноўчы Сэйм мае зацьвердзіць сваім законам.

Народу Украінскі! Перад тваім выбраным органам—Украінскаю Цэнтральнаю Радаю, стаіць вялікая і высокая сцяна, якую ёй трэба паваліць, каб вывясьці народ свой на вольны шлях.

Трэба мець сілу на гэта. Трэба дужых, сьмелых рук. Трэба вялікае народнае працы. А дзеля спорнасьці і карысьці тае працы на самы перад патрэбны вялікія кошты, [грошы]. Да гэтата часу украінскі народ усе свае кошты аддаваў на карысьць Усерасійскай Цэнтральнай казны, а сам ня меў ды ня мае і цяпер ад яе таго, што павінен-бы мець за тое.

І праз гэта мы, Украінская Цэнтральная Рада, прыпісуем усім арганізаваным грамадзянам сёл і гарадоў, усім украінскім грамадзянскім управам і установам з 1-е лічбы месяца ліпня [іюля] накласьці на людзей асаблівы падатак на родную справу ды конча і нібаўна у тэрмін перэсылаць яго у скарбніцу Украінскае Цэнтральнае Рады.

Народу Украінскі! У тваіх руках доля твая. У гэты трудны час сусьветнага безладзьдзя і распаду пакажы сваёю здольнасьцю і дзержаўным розумам, што ты народ, народ хлебаробаў, можыш горда і дастойна стаць поруч з кожным арганізаваным дзержаўным народам, як роўны з роўным.

Ухвалено у Кіеві. Року 1917, месяца чэрвеня [іюня] лічбы 10.

## Беларуская справа.

Цяперашняя вайна прымусіла расійскае грамадзянства пайсьці на Беларусь. Тут, сярод грукату гармат, мора крыві і людзкаго енку, яно стрэлася твар с тварам з беларускім народам. Гэта прымусовая стрэча ясна паказала, што расійскае грамадзянства ня знаёма ні з эканамічным укладам нашаго краю, ні з этнаграфіей, ні з історыей Беларусі. Зразумела, што нізнаёмства гэта апрач памылак і ніпаразумення, нічога добрага ня зрабіла. Гэта мы бачылі у Галіцыі,—тое самае бачым цяпер на Беларусі. Вось спытайце тых, што служаць па нашым краю у розных грамадзянскіх і казённых інстытуцыях, хто гэта беларусы, якой яны веры, на якой мові гаворуць, ці мелі яны сваю гісторыю, ці маюць сваіх пісьменнікаў, паэтаў, ці ёсьць у іх літэратура,—дык ні адтрымаеце жаднаго адказу. А калі запытацца аб гэтым тутэйшага «паляка», або пана, дык ён, літэральна, вось што скажа: «а гэта, ўласна кажучы, палякі, але расійскі урад і паліцыя перэвярнулі яго на праваслаўе... Міцкевіч, Кандратовіч (Сыракомля), Касьцюшка—тутэйшаго роду, значыць—край гэта польскі». Мейсцовых выхаванцаў расійскай культуры і пытаць ні варта, бо панясуць такую ахінею, што сорам возьме і за іх і за расійскае выхаванне.

Нізнаёмства з гісторыяй нашаго краю, з гісторыяй Літоўска-Рускаго [беларускаго] гасударства, ні знаёмства с тымі гістарычнымі варункамі, што спынілі культуральны поступ цэлага народу,—у наш час дастае горкіх скуткаў і цяжкіх ніпаразуменняў. Большасьць школьных вучыцялёў ня ведае беларускае мовы і выхавана у тутэйшых сэмінарыях на зьдзек з беларушчыны. Пачынаючы з маленства ім упарта цяўплі, што «яны ісконі рускіе і праваслаўные», што беларусаў німа і быць ня павінна, што усё мейсцовае беларускае ні цікава і ні варта увагі і што усе свае думкі яны павінны нахіляць да «матушки Волги» і «Москвы бѣлокаменной». І з вучыцяльскіх сэмінарый выходзілі ледзьвя граматныя, тупые апастаты (перэкінчыкі), с каторымі гаварыць трудна і ні магчыма, як ні магчыма вясьці размову с цёмным чалавекам аб лёгарыфмах ці аб руху зямлі каля слонца. Ад іх, напрыклад, можна даведацца, што Беларусь—гэта Літва, а беларусы—палякі, калі трымаюцца каталіцтва, і расійцы, калі яны праваслаўные. Словам, рэлігія і нацыанальнасьць, нацыанальнасьць і рэлігія зблуталіся у іх галовах у вадзін калдун.

У палові XIII веку усходняя Русь падупала ўладарству татараў, а заходняя Русь [Беларусь] з'едналася з Літвою і татаршчыны ня ведала. Калі пачаць гаварыць, што тут, у Мінскай, Магілёўскай, Вітэбскай, Віленскай губ. захаваліся звычаі і уклад старасьвецкай, даўнейшай Русі, што беларусы, патомкі Крывічоў і Дрыгавічоў, мелі і маюць сваю культуру, змагаліся за сваю самабытнасьць і нізалежнасьць, захавалі сваю мову і маюць сваю літэратуру, сваіх нацыанальных пісьменнікаў і паэтаў, што ў гісторыі асьветы Расіі ні мала стрэчаяцца беларускіх дзеячоў [Сімон Полоцкі, Меленці Сматрыцкі],—дык гэта выкліча насьмешкі як з боку расійцаў, так і палякоў.

Беларусь застаецца таемніцаю, якоясью Анатэмай, нават для самой сябе. Беларус і сябе ні называе беларусам. Ен лічыць сябе «тутэйшым», «чалавекам з забранаго краю», а усіх паноў, палякоў і расійцаў,—чужынцамі, наводнікамі. Беларусы, каторых налічваецца больш за 10 мільёнаў, жывуць скрозь па Мінскай, Магілеўскай, Вітэбскай губ., а гэтак сама у паветах сумежных губэрні Віленскай, Гродзянскай, Смаленскай, Чарнігаўскай і інш. Палякоў на Беларусі або саўсім німа, або нізначная частка ды і гэтая досыць ніпэўная, бо людзі далучаюць сябе да палякоў ні сьвядома, дзякуючы склаўшымся гістарычным варункам. На усіх беларусаў агулам каталікоў палічваецца каля 3-х мільёнаў, а уся рэшта—праваслаўные. Калі вы спытаеце праваслўнага беларуса, хто ён, дык адтрымаеце адказ: «тутэйшы рускі», а каталік: «тутэйшы паляк». Каталіцкая вера да апошняго часу лічылася панскаю, а праваслаўная—хлопскаю. Кнігі пішуцца двума шрыфтамі—рускімі і лацінскімі. Граматнасьць паміж беларусамі праваслаўнымі вельмі мала пашырана, чаго нельга сказаць аб беларусах каталіках. Беларусы—каталікі амаль ні пагалоўна граматныя, і жанке і мужчыны, што вымагаецца рэлігійнымі патрэбамі,—патрэбай чытаць кантычкі у касьцёлах ці у сябе дома, калі ня маецца блізка касьцёлу. Бяз кантычкі каталік—беларус ня пойдзе да касьцёлу, а маючы кантычку у руках ён ня лічыць ганебным пайсьці у царкву, уклёнчыць ды папіціхіньку чытаць і маліцца у той час, як поп адпраўляе праваслаўнае набажэнства. У рэлігійных справах беларус ні фанатычан і часта у аднэй хаці можна стрэць, што бацьке каталікі, а дзеці праваслаўные і наадварот...

Друкаваць па-беларуску было забароняно аж да 1906 г. Кніжка Янкі Лучыны «Вязанка», выданая у 1903 годзі, прайшла праз цэнзуру нізвычайным шыхам: цэнзуру сказаці, што яна напісана па-сэрбску. Летась ген. Эвэрт забараніў выдаваць беларускую газэту «Наша Ніва» у той час, як выдавалася польская газэта «Kurjer Litewski», дзе патрэбы беларусаў наўмысьля замоўчваліся.

Беларусь бедна і галодна, але ні ад хлеба, а ад хібнасьці асьветы і нацыанальнаго усьвядамленьня. Мо німа на сьвеці гэткаго пракрыўджанаго лёсам пароду, як беларусы. Яго песьні, матывы творчасьці паэтаў поўныя скаргі і жалю. Селянская звычайная песьня—гэта сусьветны сум, пакута і слёзы.

## ПОЛЕ.

Зарасьлі вы, межы, ў полі
Дзікім зельлем—палыном;
Гаспадар на вас паволі
Раніцой няйдзе с канём...
Не хапіло сіл жаночых
Глыбей землю загараць,
На загончыках сірочых
Травы сталі красавацъ..,
От і трэцьце даў Бог лета
А німа гаспадароў,
Не чутно цяпер да сьвета
Як даўней, іх галасоў.
Дзеж падзелісь вы, селяне,
Што нідзе вас не чуваць?
Ды баяцца на пытаньня
Межы свой атказ даваць.
І сіроткай глядзіць поле,
Сумна у даль бягуць шнуры
І не кажуць што за доля
І дзе іх гаспадары.

Якуб Колас.

## НА РЭЧЦЫ.

У берег высокі, дзе лозы растуць,
За хвалямі хвалі бягуць,
І всхліпвае рэчка у пяскох залатых
Бы маці па дзецях сваіх,
І ў берэзі вербы злучаюць свой сум
У гэты нерадосны шум;
І небо мяркотна, і хмары плывуць,
Іх слёзы на землю цякуць!..
Прыбіты вадою на срэбраны гак,
Ляжыць невядомы бедак,
Ваяка салдацік, ад дому удалі...
Яму не знайшлося зямлі!
Эх, ты, небарака, то знаць па табе
Усё вецер сумуе у вярбе,
І рэчка у хвалях—жалобі бяжыць,
І небо праз слёзы глядзіць.
Ды рэчка запіхне, і вецер засне,
І ласкаю небо зірне,
І усе апачыне, спазнае час свой...
А людзям—ці будзе спакой?!

Якуб Колас.

## КАЗКІ ЖЫЦЬЦЯ.

### ДАЛЬ.

Зацвіла вясною прыгожая ліпа.

Колькі шуму было тут на гэты час, колькі разнагалосаго сьпеву! Працавітыя пчолкі, усслякіе мушкі так бывала разгудуцца, што ліпа тагды выяўляла сабою нейкі дзіўны музыканскі струмэнт, і здавалося, што тут адбывалась ігрышча. Але адцвіла ліпа, пачало сьпець яе насеньне. Расло адно зернятка на самай высокай галінцы. Можэ гэта высачыня і была прычынаю таго, што маладому насеньню захацелася кінуць тутэйшы грунт і пэрэбрацца туды. І якое павінна быць шчасьльце жыць там, калі ад аднаго толькі погляду на прывольле гэтай далі рабілася сьветла і радасна на душы!

Бывала чуць толькі узыйдзе сонцэ, чуць разсцелюцца на версі лясоў і узгоркаў яго залатые абрусы, як гэта зерня ужо не звадзіла вачэй ад сіняй далі. Што было у ёй такого, чым паланіла яна, гэта даль,маладое жыцьцё ліповаго дзіцяці?... У тую старонку, адкуль з найлепшаго боку выглядала гэтая даль, беглі разлогі шырокіх палёў, а на іх межах то там, то сям параскідаліся, як маладзіцы у жніво,дзікіе ігрушы; ціхіе узгоркі адны за другімі, бы хвалі рачные, так сама, відаць, цягнуліся да той неяснай і прыгожай далі. А там, дзе поле упіралося у цёмную сьцяну баравога лесу, на самай граніцы, зьяла, як люстэрка, пакручастая стужка вады, А там, яшчэ далей, куды беглі і срэбраные загібы блiскучай рэчкі, і памыкаліся узгоркі, баравы лес і шырокая поле, ужо ня можна было разглядзець нічога у асобнасьці, была проста даль, тая неясная, прыгожая даль, каторая так моцна парывае да сябе душу, даль, над каторай дрэмалі у залатых марах, здавалось, нірухомыя клубочкі кучэравых хмарак.

Есьць нейкае хараство у гэтай неяснасьці, у гэтай безгранічнай далечыні, дзе небо нізка- -нізка нахіляецца над зямлёю. Якая улада, якая сіла цягне у гэту безгранічнасьць сіняй далі?

—Эх,—уздыхало маладое зерня:—паляцець бы у гэтую даль!

Пачуў вецер тые уздохі, устаў з-за узгорку, пазіхнуў пасьля салодкаго сапачынку і падляцеў да маладога насення.

— А я і ведаў,—сказаў ён насенню,—што не сягоння—заўтра, а папросішся ты у дарогу. Трэба, трэба пазнаваць Божы сьвет!

І стало прасіцца маладое насенне у ветра ўзяць яго с сабою і панясьці у аблюбованую даль.

Старой ліпі шкада было пускаць свае дзіця у чужы сьвет, Бог знае куды, але што парадзіць? Можэ там будзе і лепей яму. Дык што станавіцца папярок дарогі? Мо гэта дарога—дарога яго шчасьця? Благаславіла маці у дарогу свае дзіця.

—Ляці, мілая!

Падхапіў вецер маладое насенне і панёс і лятуць яны, і здавалося самі беглі на спатканне ім прыгожые узгоркі, зялёные лагчынкі. Пазірае на усё маладое насенне і вачам сваім ня верыць: няўжо гэто тые самые малюнкі, на каторые глядзела яно яшчэ так недаўна? А дзе-ж іх хараство? Дзе тые гладкіе обрысы, дзе грэбяне, што так пугло выглядалі адтуль, з ліпы? А палоскі лясоў? Нават сама рэчка была не такая, якой здавалась яна з далёк. І нейкі неспакой пачынаў пашыбаць маладое насенне. Ой, ці не жартуе з ім вецер: ці туды нясе ён, куды прасілася душа?

—А ці скора тая даль, мілы вецер?

—Мы даўно мінулі яе,—адказаў вецер,—а цяпер новая даль перад намі.

ТАРАС ГУШЧА.

## У ЛЕСІ.

Як малое, падкрыўджанае дзіця уцякаў ён ад тых, што зьняважылі і пагардзілі ім. Не хацеў ён бачыць твару людзкога, не хацеў чуць галасоў, поўных бэзупыннай іроні і насьмешкі, ня хацеў спатыкацца з імі, з іх поўнымі пагарды вачыма.

Ен пяшчоты прасіў,—высьмеялі яго, розуму прасіў—адапхнулі яго. Німа яму мейсца паміж тымі, што прысвоілі сабе імя «чалавек».

Куды ісьці? Дзе прытуліць набалелую галаву? Чым напоўніць апусьцелую душу?

Ціхі, цёмны, вялікі лес.

Скрываюць небо і сонцэ вякавые сосны і елкі. У іх ног туляцца шмарагдавые лешчыны, а яшчэ ніжэй—цэлае мора папаратнікаў: і шырокіх і вузкіх, і цьвердых, як з бляхі маляванай, і тоненькіх, павуцінных, як найдаражэйшые карункі, паміж імі зараслі цёмналістых чарніцаў, унізанных чорнасінімі пацеркамі ягадаў. А на самам нізе разасланы багаты махавы дыван. Якая рука яго ткала? Чыя багатая фантазія стварыла тые зорачкі, лісточкі, тую безграничную рознасьць рысункаў, што злажыла гэту цудоўную, чаруючую сваім хараством цэласьць?

Мягкі, расісты, халодны дыван прытуліў скрыўджанаго сына чэлавечаго роду. Ахаладзіў яго распалёную горам галаву; асьвяжыў запечаные вусны.

Над ім шумеў лес...

Шумеў ціхім, паважным шумам. Лі-

